Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

ГАЛОЎНАЕ КІРАЎНІЦТВА
АДЗІНАЙ ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ СЛУЖБЫ
пры НКЗ БССР

# ДЭКАДНЫ БЮЛЕТЭНЬ ПАГОДЫ

Адрас рэдакцыі: Менск, Карла Маркса, 48, Галоўнае
Кіраўніцтва АГМС БССР

| № 12 (182) 192 | 21—30 красавіка | 1935 г. |
|---|---|---|

ЗМЕСТ





## Гідраметслужба к 1-му Мая.

Гідраметслужба з'яўляецца дзецішчам Совецкай Улады, бо ў дарэволюцыйны час на сучаснай тэрыторыі БССР вывучэннем гідраметэаралагічнага рэжыму не займаліся.

Адсутнічалі навуковыя кадры гідраметэаралога і навуковыя работы замест арганізацыі на навуковай базе барацьбы са шкоднымі гідраметэаралагічнымі фактарамі царская ўлада праз папоў адурманівала працоўных рэлігіяй.

Толькі пасля Окцябрскай рэволюцыі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна шырока разгортваецца работа па навуковаму вывучэнню геафізічных і гідралагічных фактараў, скарыстоўваючы атрыманыя навуковыя даныя для абслугоўвання соцыялістычнай гаспадаркі і абароны краіны. Арганізуецца шырокая гідраметэаралагічная сець на тэрыторыі як СССР, так і БССР.

К 1-му мая 1935 года метэаралагічная сець у БССР з 3-х станцый да рэволюцыі вырасла да 33 метстанцый I і II разрада і 153 станцыі III разрада, 5 раённых гідралагічных станцый і 207 гідралагічных в/пастоў.

Значную ўвагу ўдзяляе разгортванню работы Гідраметслужбы і Геафізічнай абсерваторыі ЦК КП(б)Б і ўрад БССР, абсталяваўшы апошнюю выключна дакладнымі як замежнымі, так і вырабляючыміся ўнутры Совецкага Саюза прыборамі. Будуецца для разгортвання работы Абсерваторыі спецыяльны 4-х павярховы будынак з дапаможнымі сооружэннямі, які будзе цалкам скончаны праз 2-3 месяцы. Праароблена значная работа па падрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі работнікаў, як перыферыі, так і цэнтральнага апарата праз арганізацыю курсаў на месцы, а таксама шляхам пасылкі для павышэння кваліфікацыі ў цэнтральныя навукова-даследчыя ўстановы і атрыманне спецыялістаў акончыўшых ВНУ і тэхнікумы.

У выніку праверкі соцыяльнага складу работнікаў службы вычышчаны каля 17% соцыяльна чуждага і шкоднага элемента пралезшага ў апарат і ціхай сапай зрываўшага работу.

Замест вычышчаных—склад работнікаў абноўлен рабочай, калгаснай і партыйна-комсамольскай праслойкай, што павысіла якасць работы і ўзмацніла зацікаўленасць і барацьбу за выкананне плана і лепшае абслугоўванне народнай гаспадаркі.

Скончана генеральная геомагнітная з'ёмка на тэрыторыі БССР пачатая ў 1926 г. Прыступлена к складанню Воднага Кадастра з разлікам поўнага сканчэння работ к канцу 1936 г. К гэтаму часу работа выканана на 65% усяго плана. Падрыхтаван гідралагічны даведнік аб'ёмам каля 50 аркушаў. Распачата работа па складанню сонечнага кадастра, разгорнуты работы па вывучэнню паасобных дробных рэк маючых раённае значэнне, у мэтах скарыстання іх для дробнага суднаходства, энергетыкі і меліорацыі.

За гэты год вывучаецца да 25 водных аб'ектаў. Вялікая работа праароблена па апрацоўцы залежэй гідраметназіранняў і падрыхтоўкі іх да друку. Падрыхтаваны да друку зборнікі гідралагічных назіранняў за 1931-2-3-4 гады, па метэаралагічным назіранням за 1931-32 г. і падрыхтоўваецца да друку 1933-4 г.

Работнікамі гідраметслужбы побач з работай па аперацыйнаму абслугоўванню народнай гаспадаркі вялася навукова даследчая работа, падрыхтавана да друку 68 работ, з іх вышлі з друку да 234 друкаваных аркушаў. Значная частка гэтых работ перадана для скарыстання і надрукавання Камітэту па праблеме Вялікага Дняпра.

Вынікі гэтай работы былі атрыманы дзякуючы кіраўніцтву і штодзённай дапамозе ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало і разгортванню соцыялістычнага метаду работы соцпаборніцтва і ўдарніцва.

Трыкутнік і грамадскасць адзначаюць к 1 мая лепшых ударнікаў т. т. Свадкоўскага, Беляўскую, Ягупава, а таксама і ўдарнікаў, якія адзначаны грамадскасцю на вытворчых нарадах у колькасці 17 чалавек.

Але адзначаных, к 1 мая 17 чал. ударнікаў з 77 работнікаў Кіраўніцтва з'яўляецца не дастатковым і ў далейшым перад намі стаіць задача разгортвання работы па ахопу работнікаў, як цэнтральнага апарата так і перыферыі соц. спаборніцвам і ўдарніцтвам, што дапаможа ўзняць на належную вышыню работу гідраметэаралагічнай сеці па абслугоўванню соцыялістыч-

най народнай гаспадаркі (у асаблівасці сельскай) і ліквідаваць шэраг недахопаў, якія яшчэ ёсць у нашай штодзённай рабоце.

Ажыццяўляючы новы лозунг т. Сталіна, лозунг эпохі соцыялізма „кадры рашаюць усё“ патрэбна ўсіліць увагу к людзям к кадрам, аўладзеваючым багатай і рознабаковай тэхнікай краіны соцыялізма, усіліць дапамогу вырашчванню і выхоўванню людзей мабілізуючы іх на хутчэйшае аўладанне гэтай тэхнікай і тым самым паскорыць бурны рост вытворчых сіл Совецкага Саюза і яго неадрыўнай часткі—Ордэнаноснай БССР.

Мамаеў

## Агляд надвор'я за дэкаду з 21 па 30 красавіка 1935 года.

Надвор'е гэтай дэкады па сваім метэаралагічным элементам можна падзяліць на тры досыць рэзкіх перыоды: першы перыяд з 21-га па 26-е красавіка характарызаваўся тым, што на тэрыторыі БССР знаходзіліся цёплыя і сухія масы кантынентальна-палярнага паветра з вялікім сутачным ходам тэмпературы, з яснымі начамі і воблачнымі днямі.

У пачатку перыяда наглядалася значная воблачнасць і месцамі невялікія дажджы, але яна паступова змяншалася і к канцу перыяда мы мелі яснае неба на працягу ўсіх сутак.

У другі перыяд з 27-га па 28-га красавіка уключна мы знаходзіліся пад уздзеяннем цёплых і вільготных мас морскага палярнага паветра, якое прыйшло на тэрыторыю БССР з паўночнага захаду і змяніла надвор'е з сухога і яснага на вільготнае і пахмурнае з дажджамі облажнога характару, якія прайшлі па ўсей БССР.

У трэці перыяд з 29-га па 30-ае красавіка на тэрыторыю БССР уваходзіць з поўначы хваля халоднага морскага арктычнага паветра, што выклікала ў гэтыя дні зніжэнне тэмпературы (начамі пераважна адмоўныя і досыць значнае паніжэнне ўдзень) а таксама ўзмацненне вятроў і выпадзенне ападкаў, пераважна снега.

Наогул гэтая дэкада характарызуецца рэзка кантынентальным надвор'ем з начнымі замаразкамі і выпадзеннем ападкаў у выглядзе дажджу, снега і крупы.

Харлап

## Метэаралагічная характарыстыка за 21—30 красавіка 1935 г.

Тэмпература паветра гэтай дэкады была надзвычайна няўстойлівай. У першай палове дэкады т-ра паступова павышалася і дасягнула свайго максімума ($10-14^0$) 25-га і 26-га числа. З 27-га пачынаецца даволі хуткае зніжэнне і ў апошнія дні сярэдняя сутачная тэмпература ў паўночнай палове БССР знізілася да $-1$, $+2^0$, а ў паўднёвай да $+2$, $+5^0$. Сярэдняя дэкадная т-ра вагалася ад $+7$ да $+9^0$. У параўнанні з нармальнай яна была або роўна, або на $1^0$ ніжэй яе.

## Табліца вынікаў метэаралагічных назіранняў з 21—30 красавіка 1935 г.

| Назва станцый | Тэмпература паветра | | | | | | | | | | | | | | | | Адносная вільготн. паветра за 13 г. у % | Тэмпература паверхні глебы | | | Ападкі ў мм | | | | | | | | | | | | Метэаралагічныя з'явы (у дужках адзначаны чыслы) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | — | Сярэдняя | Нармальн. | Максімальная | Мінімальная | Чысло, калі наглядалі мінімум | | Максімал. | Мінімальн. | Чысло, калі наглядалі мінімум | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | — | Сума | |
| Дрыса | 10 | 9 | 11 | 11 | 10 | 10 | 6 | 3 | 1 | 1 | — | 7 | — | 19 | —3 | 30 | 54 | — | —4 | 21 | .. | .. | 0.1 | .. | .. | .. | .. | 2.0 | 1.0 | .. | — | 3.1 | сільны вецер (27, 29) |
| Полацк | 11 | 9 | 11 | 12 | 10 | 10 | 7 | 3 | 0 | 1 | — | 7 | 8 | 18 | —2 | 30 | 62 | — | — | — | .. | .. | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 4.0 | 2.0 | 0.2 | — | 7.2 | туман (21) мяцеліца (29) |
| Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Нова-Каралёва | 9 | 7 | 10 | 8 | 10 | 9 | 8 | 4 | —1 | —1 | — | 6 | 7 | 16 | —4 | 30 | 58 | 28 | —6 | 30 | .. | .. | 4 0 | .. | .. | .. | 1.0 | 5 0 | 5.0 | 1.0 | — | 16.0 | туман (23) |
| Лепель | 9 | 7 | 10 | 12 | 11 | 11 | 8 | 4 | 1 | 2 | — | 7 | — | 18 | —2 | 30 | 57 | — | —1 | 29 | .. | .. | 1.0 | .. | .. | .. | .. | 3.0 | 0.1 | 0.2 | — | 4.2 | туман (21, 24) |
| Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Бобр | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Барысаў | 9 | 7 | 10 | 11 | 12 | 13 | 10 | 5 | 1 | 2 | — | 8 | 8 | 20 | —2 | 30 | 55 | — | —3 | 30 | 1.0 | .. | .. | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 1.0 | 0.1 | — | 3.1 | туман (21, 24) |
| Менск | 8 | 7 | 9 | 11 | 12 | 12 | 10 | 4 | 2 | 2 | — | 8 | 8 | 18 | —3 | 30 | 53 | — | — | — | 0.1 | .. | 0.1 | .. | .. | 0.1 | .. | 2.0 | 0.3 | .. | — | 2.6 | туман (21, 22, 24, 25) |
| Бярэзіна | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Мар'іна-Горка | 8 | 6 | 10 | 11 | 12 | 13 | 11 | 4 | 2 | 2 | — | 8 | 8 | 18 | —2 | 30 | 60 | 28 | —1 | 29 | 5.0 | 0.1 | .. | .. | .. | .. | 0.2 | 1.0 | 0.1 | .. | — | 6.5 | туман (30), мяцеліца (30) |
| Асіпавічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Орша | 9 | 7 | 9 | 10 | 10 | 10 | 10 | 5 | 1 | 1 | — | 7 | 8 | 18 | —2 | 30 | 59 | — | —5 | 29 | 0.5 | .. | .. | .. | .. | .. | 0.4 | 0.2 | 1.0 | .. | — | 2.1 | мяц.(29) туман (26) гр. (21) |
| Горкі | 8 | 7 | 9 | 9 | 10 | 10 | 10 | 5 | 1 | 2 | — | 7 | 8 | 17 | —3 | 30 | 58 | 24 | —4 | 30 | 4.0 | 2.0 | .. | .. | .. | .. | 3.0 | 0.2 | 1.0 | 0.2 | — | 10.4 | вецер (29) |
| Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | .. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Слуцк | 8 | 7 | 10 | 12 | 12 | 13 | 10 | 6 | 3 | 3 | — | 8 | — | [illegible] | —1 | 30 | 60 | — | 0 | 30 | 3.0 | 0.4 | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 1.0 | 1.0 | .. | — | 6.4 | — |
| Мар.-Сосны | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Магілеў | 9 | 6 | 10 | 10 | 11 | 12 | 10 | 5 | 2 | 3 | — | 8 | 8 | 19 | —2 | 30 | 58 | — | — | — | 4.0 | 3.0 | .. | .. | .. | .. | 2.0 | 2.0 | — | .. | — | 11.0 | — |
| Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Чэрыкаў | 7 | 7 | 10 | 10 | 10 | 12 | 10 | 6 | 2 | 3 | — | 8 | 8 | 18 | —2 | 30 | 62 | — | — | — | 6.0 | 0.1 | .. | .. | .. | .. | 1.0 | 0.4 | 1.0 | 1.0 | — | 9.5 | — |
| Касцюковічы | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Турск | 9 | 7 | 10 | 11 | 10 | 13 | 10 | 6 | 3 | 3 | — | 8 | 8 | 18 | —4 | 30 | 57 | 35 | —4 | 30 | 9.0 | 0.6 | .. | .. | .. | .. | 7.0 | 2.0 | 0.2 | 0.1 | — | 18.9 | мяцеліца (30) |
| Жлобін | 9 | 7 | 10 | 12 | 12 | 13 | 10 | 7 | 4 | 3 | — | 9 | 9 | 18 | —1 | 30 | 60 | — | — | — | 8.0 | 2.0 | 0.1 | .. | .. | .. | 8.0 | 1.0 | .. | 1.0 | — | 20.1 | туман (2) |
| Жыткавічы | 8 | 8 | 10 | 12 | 13 | 14 | 11 | 8 | 4 | 3 | — | 9 | 10 | 20 | 0 | 30 | 54 | — | — | — | 0.6 | .. | 0.3 | .. | .. | 2.0 | 0.6 | 1.0 | 5.0 | 2.0 | — | 11.5 | — |
| Калінкавічы | 8 | 6 | 9 | 12 | 12 | 13 | 12 | 8 | 4 | 3 | — | 9 | 9 | 19 | 0 | 30 | 61 | — | — | — | 2.0 | 1.0 | 3.0 | .. | .. | 4.0 | 1.0 | 0.5 | 0.1 | 4.0 | — | 15.6 | — |
| Лельчыцы | 8 | 8 | 8 | 12 | 13 | 13 | 12 | 9 | 5 | 5 | — | 9 | — | 19 | — | — | 59 | 32 | — | — | 1.0 | 1.0 | 1.0 | .. | 0.1 | 3.0 | .. | 0.6 | 0.3 | .. | — | 7.0 | — |
| Чэчэрск | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 3.0 | 4.0 | .. | .. | .. | 0.4 | 4.0 | 3.0 | 0.1 | 0.1 | — | 14.6 | — |
| Барба | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Гомель | 8 | 6 | 9 | 11 | 12 | 14 | 12 | 8 | 4 | 3 | — | 9 | 9 | 19 | 0 | 30 | 78 | — | 0 | 30 | 4.0 | 0.1 | 3.0 | .. | .. | .. | 1.0 | 0.5 | 0.1 | 7.0 | — | 15.7 | туман (22, 23, 21) |
| Васілевічы | 8 | 6 | 8 | 12 | 12 | 13 | 11 | 8 | 4 | 3 | — | 8 | 10 | 19 | 0 | 30 | 63 | 32 | —2 | 26 | 2.0 | 2.0 | 3.0 | .. | .. | 3.0 | 1.0 | 1.0 | .. | 6.0 | — | 18.0 | туман (30) |
| Камарыно | 9 | 8 | 9 | 11 | 12 | 12 | 12 | 9 | 5 | 7 | — | 9 | 10 | 17 | 0 | 30 | 68 | — | — | — | 5.0 | 1.0 | 1.0 | .. | .. | 1.0 | 0.1 | 2.0 | .. | 5.0 | — | 15.1 | лівень (21) |

## Табліца вынікаў метэаралаг. назіранняў за 21 — 30 красавіка 1935 г.

| Назва станцый | Вецер: Пераважаючы: Напрамак | Вецер: Пераважаючы: Хуткасць | Вецер: З максім. хуткасцю: Напрамак | Вецер: З максім. хуткасцю: Хуткасць | Інсаляцыя ў %% | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Агульная | Сярэдняя воблачнасць у 10-балавай сістэме: Ніжняя | Сярэдні стан паверхновага пласта глебы (на глыб. 10—15 см) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дрыса | NE | 2 | NE | 12 | — | 5 | 3 | вільготная |
| Полацк | E | 4 | NW | 9 | — | 5 | 5 | » |
| Гарадок | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Нова-Каралёва | E | 4 | W | 12 | 39 | 5 | 5 | вільготная |
| Лепель | NE | 4 | NW | 9 | — | 5 | 5 | вільготная |
| Плешчаніцы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Бобр | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Барысаў | NE | 2 | NW | 7 | — | 5 | 5 | вільготная |
| Менск | W | 6 | NW | 9 | — | 5 | 5 | » |
| Бярэзіна | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Мар'іна-Горка | NE | 4 | W | 12 | — | 5 | 3 | вільготная |
| Асіпавічы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Орша | NE | 4 | NW | 12 | — | 8 | 5 | вільготная |
| Горкі | NE | 4 | NW | 17 | 50 | 5 | 5 | » |
| Клічаў | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Слуцк | NE | 3 | NW | 12 | — | 6 | 5 | вільготная |
| Мар'іна-Сосны | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Магілеў | NE | 4 | NW | 14 | — | 9 | 5 | вільготная |
| Чавусы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Чэрыкаў | NE | 4 | NW | 12 | — | 5 | 5 | вільготная |
| Касцюковічы | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Турск | NE | 4 | W | 12 | — | 8 | 5 | вільготная |
| Жлобін | NE | 3 | W | 9 | — | 6 | 6 | » |
| Жыткавічы | NE | 2 | W | 9 | — | 8 | 5 | вільготная |
| Калінкавічы | N | 2 | NW | 6 | — | 8 | 5 | » |
| Лельчыцы | N | 4 | N | 9 | — | 8 | 8 | » |
| Чэчэрск | — | — | — | — | — | — | — | » |
| Барба | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Гомель | NW | 4 | NW | 9 | — | 8 | 5 | мокрая |
| Васілевічы | NW | 6 | NW | 2 | — | 8 | 5 | вільготная |
| Камарыно | SE | 2 | SW | 12 | — | 8 | 5 | » |

Максімальная т-ра вагалася ад 16 да 20°, мінімальная ад 0 да —4°. Замаразкі адзначаны ўсімі станцыямі.

Па выпадзенню ападкаў БССР можна падзяліць (па лініі Магілёў-Жыткавічы) на 2 часткі: На паўднёвы ўсход ад гэтай лініі ападкаў выпала пераважна ад 10 да 20 мм., а на паўночны захад—пераважна менш 10 мм. Ападкі выпадалі ў першыя 2—3 дні дэкады, а з 23-га па 27-ае на поўначы і па 26-ае на поўдні назіраўся сухі перыяд (без ападкаў). У астатнія дні ападкі выпадалі амаль кожны дзень, часам у выглядзе снега.

Вятры пераважалі паўночна-ўсходнія.

Воблачнасць складала ад 50 да 80% агульнага пакрыцця неба.

Н. Малішэўская.

## Агрометаналіз за 21—30 красавіка 1935 года.

Першая пяцідзёнка дэкады па ходу тэмпературы была здавальняючай (9—10° сярэдняя за пяцідзёнку) для вегетацыі і прарастання насення і ўсходаў.

Другая пяцідзёнка дэкады характэрна замаразкамі амаль па ўсей тэрыторыі БССР, якія назіраліся ад 1 да 2-х дзён на поўдні і 3-х, 4-х дзённы на поўначы.

Сярэдняя тэмпература за пяцідзёнку была ад 4-х да 8°, мінімумы ад 0° —4°.

Адзначаныя замаразкі не былі шкоднымі ні для азімых, ні для ранніх зернавых, яравых пасеваў. Яны толькі затрымалі тэмпы ўсходаў і інтэнсіўнасць вегетацыі адзначаных вышэй культур. Выпадаўшыя ападкі, часамі ў выглядзе снега ніякай шкоды не прынеслі, бо снег зразу-ж растайваў.

Становішча азімых адзначаецца метстанцыямі „добра“ і „здавальняюча“.

Орман.

## Нова-Каралеўская метстанцыя ў абслугоўванні вясенняй пасеўнай кампаніі 1935 года

Уключыўшыся ў конкурс на лепшае абслугоўванне с/г кампаніі 1935 г., аб'яўлены ГК АГМС у красавіку м-цы г. г. Нова Каралеўская метстанцыя вызвала на соцпаборніцтва лепшую прэміраваную ў мінулым годзе за лепшае абслугоўванне сельскай гаспадаркі, метстанцыю Горкі. Улічваючы ўсю сур'ёзнасць барацьбы за высокі ўраджай наша станцыя з самага пачатку года па баявому ўключылася ў абслугоўванне с/гаспадаркі.

Выбраны ўчасткі для феналагічных назіранняў. Зроблена апісанне ўчасткаў. Арганізаваны назіранні над пчалярствам, буйнай рагатай жывёлай, вільготнасцю глебы і дзікай феналогіі З 21 красавіка арганізавана вызначэнне магчымасці прымаразкаў і перадачы штодзённых прагнозаў пагоды прынімаемых з Менскага бюро пагоды.

Для лепшай арганізацыі с/гаспадарчых работ па прапанове РК партыі наладжана сістэматычная пяцідзенная інфармацыя

РК партыі, РайЗА, Каралеўскага с/совета і калгаса „Серп і Молат“ аб відах на пагоду, якія складаюцца на падставе атрымліваемых кансультацый Менскага і Маскоўскага бюро пагоды. Па заданню ВМГК па вызначэнню ўраджайнасці супрацоўнікамі метстанцыі была праведзена праверка гатоўнасці к севу ў калгасах: „Уперад да соцыялізма“, „Чырвоная Ласосіна“, „Комінтэрн“, „Серп і молат“. Райкомам партыі да хатылабараторыі ў калгасе „Серп і молат“ прымацаван назіральнік станцыі Ганіпроўскі. Праведзен вопытны пасеў ільну плошчай у 2 га. Работнікі метстанцыі прымаюць актыўны ўдзел у выпуску насценгазеты калгаса і яе мастацкім афармленні, у маляванні лозунгаў, плакатаў, дошак тэмпаў і інш.

Работнікі нашай метстанцыі ўпэўнены, што гэты конкурс з'явіцца лепшым стымулам для ўзняцця актыўнасці і мабілізацыі ўсіх работнікаў метэаралагічнай сеці БССР на барацьбу за высокі ўраджай соцыялістычных палёў, на барацьбу за ажыццяўленне лозунга любімейшага правадыра комуністычнай партыі і сусветнага пролетарыята тав. Сталіна — зрабіць калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі.

Заг. мет. станцыі Ганіпроўская

---

Адказны рэдактар — *П. Мамаеў.*

Друк. БелАН. Уп. Галоўлітбела № 2885. Зак. № 688.